*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета
(Выходзіць з сакавіка 1990г.)

№ 28(188)

13 ліпеня 1994 г.

Кошт -- 150 рублёў

## ПОСТУП ТЫДНЯ



***СПРЭЧНЫЯ ПЫТАННІ**, звязаныя з дэмілітацыяй граніцы і чыгуначнай станцыі Гадуцішкі, сталі прычынай падпісання Дагавору аб дружбе і супрацоўніцтве паміж Беларуссю і Летувай. Гэта высветлілася ў часе сустрэчы кіраўніцтва нашай краіны з прэзідэнтам Летувы Альгірдасам Бразаўскасам. Абодва бакі пагадзіліся актыўна працаваць над вырашэннем памежных пытанняў. Дай Бог, каб акт лад паспрыяў ладу, бо сябраваць з суседзямі і прыемна, і выгадна.*

* * *

**ПАДПІСАНА ПАГАДНЕННЕ** паміж Урадам Рэспублікі Беларусь і Урадам Расійскай Федэрацыі аб сумесных дзеяннях у 1994 годзе па мінімалізацыі і пераадоленні наступстваў чарнобыльскай катастрофы. Нарэшце, бо сёлетні год пераваліў ужо на сваю другую палавіну. Згодна з гэтым пагадненнем Беларускі Бок акажа садзеянне Расійскаму Боку ў рэалізацыі на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі мерапрыемстваў па мінімалізацыі і пераадоленні наступстваў чарнобыльскай катастрофы, у тым ліку ў праектаванні і будаўніцтве жылля і аб'ектаў інфраструктуры населеных пунктаў, размешчаных у зонах радыеактыўнага забруджвання. Расія выдзяляе фінансавыя рэсурсы Беларускаму Боку на траты з-за чарнобыльскай бяды, але гэта, відаць, не пакрые і шостай часткі таго, што даводзіцца расходаваць штогод самім беларусам.

* * *

***УЖО КАТОРЫ РАЗ ЗА ГОД** В. Чарнамырдзін з В. Кебічам падпісалі Пратакол аб аб'яднанні грашовых сістэм, але ўрэшце зноў высвятляецца, што нешта там трэба дапрацаваць. У ходзе прэс-канферэнцыі Старшыня Вярхоўнага Савета М. Грыб на пытанне журналіста, чаму з беларускага боку Пратакол падпісаў разам з прэм'ерам першы намеснік старшыні праўлення Нацыянальнага банка Беларусі, а не сам галоўны банкір, адмоўныя адносіны якога да гэтай акцыі шырока вядомыя, М. Грыб адказаў, што С. Багданкевіч зараз, аказваецца,.. у водпуску, а ў дадатак нібыта нават і руку зламаў. Дай Бог С. Багданкевічу хуткага выздараўлення, бо працы яму, па ўсім відаць, наперадзе багата, тым больш, што, на думку сакратара Камісіі па прамысловасці і паслугах насельніцтву Вярхоўнага Савета Беларусі Уладзіміра Новіка, усе гэтыя перманентныя падпісанні Пратакола аб аб'яднанні грашовых сістэм на працягу апошняга года робяцца наўмысна зацікаўленай групай дзялкоў і вядуць толькі да канчатковага разбурэння нашай эканомікі і збяднення беларускіх працаўнікоў.*

## Жыве народ — жыве ТБМ!

27 чэрвеня адбылося пашыранае пасяджэнне Сакратарыята ТБМ імя Ф.Скарыны, прысвечанае пяцігоддзю з дня стварэння Таварыства. Вёў пасяджэнне старшыня ТБМ народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч.

Кароткую інфармацыю аб бягучай дзейнасці Сакратарыята зрабіў аргсакратар В.Вільтоўскі. Пасля слова ўзяў старшыня ТБМ. Ён адзначыў, што Таварыства дажыло да свайго першага юбілею, які з'яўляецца падзеяй для ўсіх рупліўцаў на ніве нацыянальнага беларускага Адраджэння. Прамоўца цёпла павіншаваў усіх сяброў Таварыства са святам, пажадаў ім здароўя і вялікага натхнення ў іх высакароднай справе. Далей Н.Гілевіч паставіў пытанне: ці апраўдала сябе сама ідэя ТБМ? Сам ён упэўнены, што адказ можа быць толькі станоўчы, бо ўжыванне роднага слова апошнім часам значна пашырылася, прыняты і дзейнічае Закон аб мовах, які надаў матчынай мове статус дзяржаўнай.

Прамоўца выказаў падзяку ўсяму калектыву рэдакцыі «Наша слова», якая па-ранейшаму робіць шмат для прапаганды адраджэнцкага светапогляду. Удалым, на думку Н.Гілевіча, аказаўся і юбілейны нумар газеты. Вельмі добрае ўражанне тут пакідаюць, напрыклад, гутарка з акадэмікам Радзімам Гарэцкім, артыкул старшыні нашай Менскай гарадской рады прафесара Міколы Савіцкага і, асабліва, летапіс Таварыства — своеасаблівая сціслая гісторыя ТБМ, некаторыя немалаважныя падзеі з якой мы ўжо самі нават патроху пачалі забываць.

Затым прамоўца згадаў пэўныя эпізоды канца 80-х гадоў, звязаныя з падрыхтоўкай да стварэння ТБМ імя Ф.Скарыны, падкрэсліўшы, у прыватнасці, што гэта пытанне тады ўжо наспела, яно проста вісела ў паветры, і гэта разумелі нават апаратчыкі з ЦК КПБ. Першай значнай грамадскай акцыяй нашага Таварыства, як лічыць Ніл Гілевіч, стала ў другой палавіне 1989 года вылучэнне ад ТБМ кандыдатаў у народныя дэпутаты. Тады мы змаглі вылучыць кандыдатамі ў вышэйшы орган дзяржаўнай улады рэспублікі 15 чалавек, з іх 11 (у тым ліку, напрыклад, З.Пазьняк) сталі народнымі дэпутатамі Вярхоўнага Савета, дзе неўзабаве склалі ядро парламенцкай апазіцыі.

Другой важнай справай, на думку прамоўцы, з'явілася стварэнне мясцовых арганізацый ТБМ — раённых і гарадскіх рад, суполак на прадпрыемствах, у арганізацыях і ўстановах. Пасля была паспяхова вырашана задача заснавання ўласнага друкаванага перыядычнага рэспубліканскага выдання. Аднachасова актывісты Таварыства тады рэзка павялічылі колькасць сваіх выступленняў у друку, на радыё, тэлебачанні. Усе гэтыя захады дапамаглі прыняццю Вярхоўным Саветам 29 студзеня 1990 года Закона аб мовах, у адным з артыкулаў якога сказана, што дзяржаўнай мовай з'яўляецца беларуская мова.

Гаворачы аб перспектывах Таварыства, Ніл Гілевіч падкрэсліў, што яны напрамую звязаны з агульнай сітуацыяй у нашай краіне. Перш-наперш нам неабходна замацавацца на дасягнутых рубяжах, рабіць усё, каб выконваўся Закон аб мовах. Не зважаючы ні на што, ТБМ імя Ф.Скарыны павінна жыць, а «Наша слова» —выходзіць. Сваё выступленне ён закончыў так: «Народ без роднай мовы — не народ!»

Пасля слова бралі М.Савіцкі, М.Мацюкевіч (г.Салігорск), М.Лавіцкі, Зм.Санько, Э.Ялугін і іншыя. Прамоўцы абмеркавалі пытанні практычнай дзейнасці Таварыства, выказалі сваё бачанне чарговых задач.

**М.В.**

*СВЕДЧЫМ!*

## Васіль БЫКАЎ: "Сусветная супольнасць недаацэньвае ўсёй той небяспекі, якая сыходзіць на свет з Беларусі!"

**4 ЛІПЕНЯ, У ГАДАВІНУ ВЫЗВАЛЕННЯ БЕЛАРУСІ АД ФАШЫСЦКІХ ЗАХОПНІКАЎ, У МЕНСКУ АДБЫЎСЯ ПРЫКРЫ ІНЦЫДЭНТ, ЯКІ ЛЕДЗЬ НЕ ПАСТАВІЎ КРЫВАВУЮ КРОПКУ НА ГЭТЫМ СВЯЦЕ.** Калоне Беларускага народнага фронту, у якой крочылі ветэраны вайны і працы, славутыя людзі рэспублікі, моладзь і дзеці, сілай не дазволілі пакласці кветкі да помніка Перамогі і ўшанаваць памяць палеглых у Другой сусветнай вайне. Шлях да Вечнага агню перакрылі шчыльныя шэрагі АМОНаўцаў і баявікі з пракамуністычных арганізацый — з чыкінскай партыі камуністаў, расейскіх баркашоўцаў, Славянскага сабора «Белая Русь», так званага Саюза афіцэраў і інш.

Пэўна ж былі сярод іх і ашуканыя бальшавіцкай прапагандай беларускія ветэраны. Два пажылыя палкоўнікі крычалі ў бок калоны: «Бросайте в реку ваши фашистские флаги, тогда мы вас пропустим возложить ваши «кветки» к памятнику Победы!» У пэўны момант была дадзена каманда, па якой АМОНаўцы выйшлі з ачаплення. Паміж калонай і эсэсэра-камуністычнымі баявікамі застаўся ланцужок маладых міліцыянтаў. З-пад чырвоных, бэсэсэраўскіх і расейскіх сцягоў крычалі: «Только троньтесь, будем бить вас и вашу милицию!»

А да гэтага калона БНФ ужо прайшла праз тры кардоны войска і міліцыі на праспекце Скарыны: на спуску да цырка, перад цыркам і на свіслацкім мосце. **ЛЮДЗЕЙ ШТУРХАЛІ Ў ГРУДЗІ, ЗАЦІСКАЛІ, ЗРЫВАЛІ БАЯВЫЯ ЎЗНАГАРОДЫ, СЦЯГАНОСЦА ЎДАРЫЛІ, А ДЗЯРЖАЎНЫ СЦЯГ ПАДРАЛІ І КІНУЛІ ПАД НОГІ. ВАСІЛЯ БЫКАВА ЗАСЛАНІЎ АД УДАРАЎ, ЯКІЯ ПАСЫПАЛІСЯ НА НАРОДНАГА ПІСЬМЕННІКА БЕЛАРУСІ, НЕЙКІ СВЕТЛАГАЛОВЫ ХЛОПЕЦ.**

Каб не дапусціць крывавай сутычкі, паколькі натоўп чырвона-карычневых лютаваў, Зянон Пазьняк павёў людзей да помніка Купалу, дзе адбыўся стыхійны мітынг у гонар палеглых на вайне. Паколькі была ўчынена палітычная правакацыя, то ў выступленнях ветэранаў дасталося як яе арганізатарам, так і сістэме, заснаванай на хлусні, насіллі і тэорыі класавай барацьбы, банкруцтва якой і засведчыла дадзеная правакацыя. Правакацыя гэта была расцэнена як чорная здрада суверэнітэту рэспублікі, як знявага памяці палеглых продкаў, як знявага краін антыгітлераўскай кааліцыі, пад сцягамі якой ішла калона.

**Народны пісьменнік Беларусі В.Быкаў адзначыў:** «Другая сусветная вайна, паколькі ўвесь цывілізаваны свет змагаўся ў ёй з фашызмам, была, бадай, адной ці не з самых справядлівых на зямлі. А пакарысталіся ёю і прыватызавалі яе вынікі пэўныя сілы і перш за ўсё сталінізм, які жывы і цяпер. І цікава, што ў наш час ён з гэтай перамогай гатовы падзяліцца нават з ідэйнымі паслугачамі нямецкага фашызму — з карычневымі. Карычневыя і чырвоныя ў нас дзейнічаюць заадно — яны спаборнічаюць у справе занявольвання беларускага народа. І не толькі беларускага. Сусветная супольнасць, відаць, недаацэньвае ўсёй той небяспекі, якая сыходзіць на свет з Беларусі. Іменна небяспекі, якую тут выгадавалі, выпесцілі за гады перабудовы беларускія камуністы. Трэба рабіць высновы з урокаў гісторыі, у тым ліку і з урокаў сённяшняга дня».

На мітынгу таксама выступілі старшыня суполкі Дэмакратычных ветэранаў пісьменнік Артур Вольскі, народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін, заслужаная артыстка Беларусі Галіна Дзягілева, народны архітэктар СССР, аўтар помніка Перамогі ў Менску Георгій Заборскі, доктар гістарычных навук з Санкт-Пецярбурга Валянцін Грыцкевіч, кавалер ордэна Баявога Чырвонага Сцяга, старшыня Слаўгарадскага гарсавета Фелікс Шкірманкоў, франтавічка Марыя Астахава, доктар філасофскіх навук, былы камандзір роты Пінскага партызанскага злучэння Георгій Давідзюк, падпалкоўнік у адстаўцы ветэран вайны Іван Васілец, былы начальнік 2-й Заслонаўскай брыгады доктар філасофскіх навук Мікалай Крукоўскі, старшыня БНФ, народны дэпутат Беларусі Зянон Пазьняк. Вёў мітынг народны дэпутат Беларусі Валянцін Голубеў.

**З выступлення Артура Вольскага:** «**КАЛІ СЁННЯ МНЕ Ў ГРУДЗІ ЎПЕРЛІСЯ РУКІ МАЛАДОГА АМОНАЎЦА, ЯКІ ПА ЎЗРОСЦЕ СВАІМ МОЖА БЫЦЬ МАІМ УНУКАМ, МНЕ СТАЛА НЕ ПА САБЕ. У ГЭТЫ МОМАНТ, ПРЫЗНАЮСЯ ШЧЫРА, Я АДЧУВАЎ ТОЕ, ШТО АДЧУВАЎ, КАЛІ ВЫСАДЖВАЎСЯ З ДЭСАНТАМ НА МАНЬЧЖУРСКІ БЕРАГ ПАД КУЛЯМІ ЯПОНСКІХ САМУРАЯЎ.** Ганьба не тым хлопцам, якіх выставілі супраць нас, супраць тых, хто мае поўнае права на гэтае свята, ганьба тым, хто паслаў іх біць і зневажаць сваіх бацькоў і дзядоў. Але я не сумняваюся, што надыдзе той час, калі мы будзем святкаваць яшчэ адну перамогу — канчатковую перамогу свабоды на нашай роднай Беларусі».

**З выступлення Георгія Заборскага:** «Я пачаў вайну ў Менску на яе трэці дзень. Быў тройчы цяжка паранены і апынуўся ў горадзе Троіцку на Урале. Калі ў мяне стала працаваць правая рука, я пачаў замалёўваць і праектаваць помнік Перамогі для Менска. Хтосьці сказаў Патолічаву, які быў тады сакратаром Чэлябінскага абкома, пра мяне: ляжыць, маўляў, у шпіталі нейкі ненармальны беларус, які працуе над помнікам Перамогі. Мне былі створаны ў шпіталі ўсе ўмовы для працы. Пасля вайны я пачаў практычную дзейнасць па аднаўленні Менска: праспект Скарыны, плошча Незалежнасці, плошча Перамогі — гэта маё... **А ТОЕ, ШТО СЁННЯ МЯНЕ, ІНВАЛІДА ВАЙНЫ ДРУГОЙ ГРУПЫ, І ТЫХ, ХТО ПРЫНЁС ПЕРАМОГУ, НЕ ПУСЦІЛІ ПАКЛАСЦІ КВЕТКІ ДА ВЕЧНАГА АГНЮ —ГАНЬБА НА ЎВЕСЬ СВЕТ, І СВЕТ АБ ГЭТЫМ ДАВЕДАЕЦЦА І ЗГАНІЦЬ ЗДРАДНІКАЎ...»**

**З выступлення Марыі Астахавай:** «Я 74 гады жыву на свеце, вынесла на сабе шмат добрага і дрэннага, але тое, што зараз робіцца, — ёсць агонія старога ладу. Прыгадайце, як кусаюцца ўвосень мухі, калі ім надыходзіць канец. **МЫ СУСТРЭЛІ СЁННЯ ФАШЫЗМ, САМУЮ САПРАЎДНУЮ ФАШЫСТОЎСКУЮ ПРАВАКАЦЫЮ».**

**З выступлення старшыні БНФ З.Пазьняка:** «Сённяшні прыклад паказаў, што Другую сусветную вайну развязалі дзве таталітарныя сілы — нямецкія фашысты і савецкія камуністы. Гэта гістарычны факт, але сёння яны гэта псіхалагічна пацвердзілі. Яны не пусцілі нас, тых людзей, якія ішлі пад сцягамі антыгітлераўскай кааліцыі да Вечнага агню. Хто гэта зрабіў? Гэта зрабілі перш за ўсё тыя ўлады, якія гандлююць Беларуссю і якія ненавідзяць беларускі народ. Не тыя старыя ветэраны нясуць галоўную адказнасць, што былі каля помніка. Тыя людзі ваявалі пад чужымі сцягамі, яны ашуканыя па сённяшні дзень. Вінаваты перш за ўсё ўлады, што іх выкарыстоўваюць, і вінаваты новыя маладыя агалцелыя камуністы. Я спытаў у кіраўнікоў АМОНаўцаў: «Хто вам даў загад так сябе паводзіць з ветэранамі вайны?» Яны адказалі, што атрымалі загад з Савета Міністраў, загад са Штаба. Я кажу: «Назавіце канкрэтныя прозвішчы!» Вочы долу і прозвішчы баяцца назваць, але загад быў адтуль... Мы павінны рабіць вывады, што нашая дзяржава ў руках нашых ворагаў, тым больш небяспечна, што гэта здраднікі, гэта манкурты. Каб былі ворагі, якія прыйшлі аднекуль, гэта было б прасцей. Кліменцій Смаляціч яшчэ ў ХУ1 стагоддзі пісаў: «Свая костка, ды сабачым мясам абрасла і воняець зело»...

Мы, нашыя продкі перамаглі фашызм. Засталося перамагчы камунафашызм. І мы яго пераможам. Пераможам сваім жыццём, сваім аптымізмам, таму што мы — народ, мы — жывое, мы спяваем песні, за намі наша гісторыя. У нас вялікая краіна, у нас выдатны народ, у нас прыгожая светлая зямля і светлая будучыня. Жыве Беларусь!»

**Ірына КРЭНЬ,**
**сведка падзей.**

ЖЫЦЦЁ ТАВАРЫСТВА

## Закон выконваецца недастаткова

Як паведаміла Сакратарыяту ТБМ імя Ф.Скарыны старшыня Гомельскай гарадской рады Таварыства В.Башлакова-Мікалаева, у гэтым абласным цэнтры ўжо ёсць пэўныя зрухі ў выкананні Закона аб мовах. Ужыванне дзяржаўнай мовы тут прыкметна пашырылася. Так, пераважна па-беларуску ўжо гучаць аб'явы на чыгуначным вакзале, у вагонах цягнікоў. Але на гарадскім гарадскім транспарце роднае слова яшчэ чуецца вельмі рэдка, бо за гэтым няма адпаведнага кантролю з боку кіраўнікоў транспартных устаноў.

У дадзеным накірунку лепшая сітуацыя ў Гомелі існуе з візуальным афармленнем гарадскога асяроддзя. Так, у большасці выпадкаў шыльды з назвамі вуліц і ўстаноў выконваюцца па-беларуску. Тое ж самае можна сказаць і ў дачыненні разнастайных аб'яў і рэкламы. Але ў гомельскіх крамах цэннікі і маркіроўка тавараў яшчэ ў асноўным застаюцца рускамоўнымі. Паслядоўнае выкананне Закона аб мовах ігнаруецца ўстановамі абласнога падпарадкавання.

Тое станоўчае, што зроблена ў Гомелі па пашырэнні ўжывання роднага слова, стала магчымым дзякуючы сумесным намаганням актывістаў гарадской рады ТБМ імя Ф.Скарыны і гарадской кансультацыйнай рады «Адраджэнне» (старшыня У. Страчанка).

Меркаванні

## *Заганнасць астаткавага прынцыпу*

Нават адразу пасля вайны, калі адбудоўваліся знішчаныя фашыстамі вёскі, калі жылося галодна і холадна, калгаснікі не забывалі, што пасля цяжкай працы трэба па-людску адпачыць. Звычайна па вечарах яны ішлі ў калгасны клуб ці хату-чытальню. Там можна было пагуляць у шашкі і шахматы, пачытаць свежыя газеты, часопісы, паглядзець кіно.

Асабліва весела рабілася ў клубе ў суботнія і нядзельныя вечары: на сцэне вясковыя артысты наладжвалі спектаклі, канцэрты. Амаль ніводны вечар не абыходзіўся без беларускіх танцаў. Танцавалі «лявоніху», «крыжачок», «польку». І абавязкова на самым пачэсным месцы, на сцэне, сядзеў гарманіст. Пад заліхвацкія пералівы гармоніка ногі самі прасіліся ў скокі. Натуральна, што тон у скоках задавалі дзяўчаты і хлопцы. А людзі пажылога ўзросту сюды прыходзілі, каб з зайздрасцю паглядзець, як танцуе моладзь, каб згадаць свае ўласныя маладыя гады. І, здаралася, не вытрымлівалі, пад гукі гармоніка самі пачыналі скакаць.

Але ж гэтак бывала раней. А цяпер? Зайдзіце ў суботні вечар у любы вясковы клуб, які зараз ужо гучна называецца Домам культуры. Паспрабуйце там адпачыць. Упэўнены, не ўдасца, бо газет і часопісаў не знойдзеш, шашак і шахмат — таксама, а фільмы наогул не круцяць — нерэнтабельна. Дарэчы, па гэтай прычыне расфармаваны раённыя сеткі кінапракату.

Сёння моладзь ідзе ў Дом культуры не на танцы, а на... дыскатэку. Нічога не скажаш, моднае слова! На дыскатэках назойлівыя какафанічныя рытмы так і рвуцца з замежных касет. Там не пачуеш ніводнага роднага матыву. Адна бабулька, выпадкова трапіўшы на такія цяперашнія «вясковыя» танцы, мігам выскачыла адтуль, як апечаная.

— Спадабаліся танцы? — пацікавіўся я.

— Ат, — махнула адчайна рукой яна, — гэта не танцы. Гэта чэрці мак таўкуць.

Раней, каб пайсці ў круг і ладна вытанчыць, напрыклад «лявоніху» ці «крыжачок», трэба было як след навучыцца. Цяпер жа гэта рабіць не варта: уключай магнітафон і крыўляйся, гоцкайся, гойсай пад самую столь — вось і ўся навука.

У дні майго дзяцінства мая родная вёска Астражанка вечарамі поўнілася беларускімі народнымі песнямі. Ідуць, бывала, дзяўчаты па вуліцы і так хораша спяваюць, што за сэрца бярэ. Цяпер мы называем гэта фальклорам. Тады гэта было жыццё. У той час ніводная вясковая кабета не абыходзілася без песні. Яны спявалі родныя песні ў полі, дома, на святах і вячорках. А дзе цяпер іх пачуеш? Хіба па радыё ці на якім-небудзь канцэрце... Цяперашняя моладзь не шануе тое, што атрымала ў спадчыну ад сваіх бацькоў, больш хапае чужое. Народная песня зрабілася мачыхай на роднай зямлі.

Краіна займела сваю незалежнасць, герб і сцяг, роднай мове нададзены статус дзяржаўнай. Пачалося адраджэнне ўсяго нацыянальнага, забытага і занядбанага. Зразумела, што ў згаданым працэсе галоўную скрыпку павінна адыгрываць нацыянальна свядомая моладзь, бо за ёй — будучыня. Але ў якой выхоўваецца моладзь, калі яна расце ў духоўным вакууме і дыскамфорце, калі чуйныя маладыя душы штодня калечацца парнаграфіяй і насіллем, што пастаўляюцца нам у выглядзе кінафільмаў і бульварнай літаратуры з замежжа. Дзяржава ж мала клапоціцца аб духоўным адраджэнні нацыі: культура, навука, адукацыя фінансуюцца штогод па заганнаму астаткаваму прынцыпу. Калі і далей так будзе «апекавацца» культура, то хутка спыняцца не толькі заводы і фабрыкі, але і зачыняцца ўсе культурныя і навучальныя ўстановы нашай маладой дзяржавы. І яна зачахне, не паспеўшы адрадзіцца і стаць на ногі.

**Мікола КАПЫЛОВІЧ.**
г. Маладзечна.

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

***Чым было Беларускае радыё на працягу сваёй амаль 70-гадовай гісторыі — крыніцай інфармацыі для беларусаў ці прапагандысцкай машынай савецкага таталітарызму — каго сёння можа цікавіць такое пытанне? Але падзеі, што адбыліся на Рэспубліканскім радыё апошнім часам, зноў прымусілі наша грамадства задумацца над тым самым пытаннем: каму належыць і чые інтарэсы прадстаўляе радыё краіны, у якой мы жывём?***

УСЁ пачалося больш трыццаці гадоў таму, калі на першай праграме Рэспубліканскага радыё тагачаснай БССР была створана праграма «Беларуская маладзёжная». Ні заснаванне, ні існаванне новай праграмы не сталі падзеямі грамадскага жыцця. Змест перадач тагачаснай «БМ» быў далёкім ад інтарэсаў маладых, якія аддавалі перавагу маскоўскаму радыё «Юность» ці перадачам з суседняй Польшчы — больш актуальным і прафесійным. Гэткі стан рэчаў мог бы захоўвацца дзесяцігоддзямі, калі б не спрацаваў новы чыннік. Ім стала спыненне дзейнасці «глушылак» —радыёстанцый, што перашкаджалі прыёму замежных радыёстанцый. З распадам СССР інфармацыя, аб'ектыўная і бесстаронна пададзеная, альтэрнатыўная афіцыйнай савецкай, запоўніла эфір былога Саюза. Інфармацыйны вакуум у незалежнай Беларусі знік: атрымаць любыя звесткі грамадзяне незалежнай Беларусі маглі з перадач замежных станцый — ад радыё Ватыкана да «Радыё Свабода», якія, дарэчы, вялі перадачы па-беларуску. У выніку таго праграмы, што гучалі з дынамікаў лінейнай трансляцыі, —спадчыны эпохі аднадумства, — пачалі імкліва губляць сваю папулярнасць. І «Беларуская маладзёжная» не стала тут выключэннем.

Але да гэтага часу праграма ўжо зрабіла крокі да ўласнай перабудовы. Пачаткам сталі суботнія перадачы «БМ» у жывым эфіры, якія, паводле дадзеных сацыялагічных даследаванняў, слухалі 60 % насельніцтва краіны. Тады ж супрацоўнікамі «Маладзёжнай» была распрацавана новая, сучасная канцэпцыя вяшчання. У прыватнасці, радыёжурналісты прапанавалі ўласнымі сіламі стварыць інфармацыйна-пацяшальны канал, перадачы якога гучалі б з 7 да 8 гадзіны ўранні на першай праграме рэспубліканскага радыё. «Вы хочаце, каб ГЭТА гучала яшчэ і з сёмай па восьмую?» — гэткі водгук свайго тагачаснага шэфа, а цяпер сябра Камісіі Вярхоўнага Савета па пытаннях галоснасці сп. Сушкевіча пачулі журналісты ў адказ на сваю прапанову. Праз нядоўгі час незадаволенае занадта, на яго погляд, вострым зместам вечаровых праграм «БМ», кіраўніцтва Беларускага радыё загадала рэдакцыі інфармацыі стварыць новую праграму, каб заняць тую ж гадзіну эфірнага часу — ад 7.00 да 8.00. Так з'явілася праграма «Радыёфакт» — эфірны дайджэст выданняў Савета Міністраў.

Тым не менш журналісты «БМ» не сунімаліся і прапанавалі аддаць ім усю другую праграму Беларускага радыё —каля чатырох гадзін вяшчання па-беларуску — слабае падабенства расійскага «Маяка» — і непасрэдна «Маяк», рэтрансляваны за грошы беларускіх падаткаплацельшчыкаў. Замест асобнага канала на другой праграме было створана асобнае «Радыё Крыніца», супрацоўнікамі тут стала частка людзей з «БМ». Трохі пазней з першага на другі канал была пераведзена і частка праграм «Беларускай маладзёжнай», вынікам чаго стала значнае змяншэнне аўдыторыі папулярнай праграмы: магчымасці чуць яе пазбавіліся ўладальнікі аднапраграмных (а значыць пераважнай большасці) сеткавых радыёпрыёмнікаў.

Але да таго часу, нягледзячы на перашкоды сваёй дзейнасці, і «Беларуская маладзёжная», і «Крыніца» набылі ўласныя, вядомыя мільёнам радыёслухачоў, абліччы. «Крыніца», якую ўзначальвала былая намесніца галоўнага рэдактара «БМ» Алена Сцяпанава, стала папулярнай інфармацыйна-музычнай перадачай, якая хутка адгукалася на ўсе падзеі жыцця краіны, даючы магчымасць выказваць сваё да іх стаўленне прадстаўнікам самых супрацьлеглых поглядаў. Меркавалася, што з цягам часу яна зробіцца беларускім адпаведнікам папулярнага радыё «Юность» і зойме ўвесь другі канал. Адметнымі і надзвычай папулярнымі сталі праграмы «Беларускай маладзёжнай», якая пачала набываць выгляд аўтаномнай радыёстанцыі з уласнымі музычнай і літаратурнай рэдакцыямі, уласнай службай інфармацыі, нават уласнай службай грамадска-палітычных праграм. Маючы ліцэнзію Ай-Ті-Ві-цэнтра, «Беларуская маладзёжная» выйшла на радыёкарпарацыю Бі-Бі-Сі і, заключыўшы з ёй пагадненне, штодзённа праз сатэлітарную антэну брала навіны Бі-Бі-Сі. У праграмах «БМ» гучалі, акрамя паведамленняў з краю, агляды навін заходніх радыёстанцый. Было падпісана пагадненне аб інфармацыйным абмене з Радыё Польшчы, у эфіры гучалі паведамленні карэспандэнтаў з Летувы... Стварыўся новы калектыў рэдакцыі — сапраўдная каманда аднадумцаў, у якую, акрамя ўжо вядомых Жаны Літвіной, Віталя Сямашкі, Алены Радкевіч і Таццяны Нічыпарук, увайшлі вядомы рок-музыкант Лявон Вольскі — вядучы авангарднай праграмы «Квадракола», стваральнік «Радыё Ч» Алесь Дайнека, маладыя журналісты Зміцер Лукашук, Юры Быкаў, Эдвард Тарлецкі, чыя мова была пазбаўлена «савецкасці» маўлення, а мысленне — ідэалагічных догмаў. Незвычайнай для Беларусі стала сама канцэпцыя радыёстанцыі, якая падзеі ў свеце і ў краі прадстаўляла менавіта з пункту гледжання тутэйшых, беларусаў, носьбітаў мовы і культуры, грамадзян незалежнай краіны. Але такімі адчувалі сябе не ўсе слухачы праграм. Менавіта гэта і стала падставай змен, што адбыліся пазней.

Пачынаючы з траўня гэтага года ў кіраўніцтве Беларускага радыё пачаліся агульныя размовы пра непапулярнасць другой праграмы, пра адсутнасць сродкаў на яе фінансаванне. Каб абгрунтаваць іх ці абвергнуць, пачынаючы з 20 траўня «Крыніца» правяла шэраг апытанняў слухачоў на тэму: ці патрэбна перадача, які выгляд мусіць яна мець і г.д. Вынік апытанняў быў нечаканым для яго ініцыятараў: рэдакцыя атрымала мноства лістоў і тэлефанавання ў сваю падтрымку ад слухачоў самых розных прыхільнасцей — ад удзельнікаў «Славянскага сабору» да сяброў БНФ. Але, як вядзецца ўжо семдзесят гадоў, меркаванні зацікаўленых асобаў не былі прыняты ва ўлік.

Уранні 28 траўня на хвалях

**БЫВАЙ,**

«Беларускай маладзёжнай» было абвешчана чаканае мноствам слухачоў інтэрв'ю ў жывым эфіры са старшынёй Нацыянальнага банка Беларусі сп. Багданкевічам. Чаканае, бо пазіцыя яго ў справе далучэння Беларусі да фінансавай сістэмы Расіі цікавіла кожнага. Але ўвечары 27 траўня, за некалькі гадзін да эфіру, калі перадача была ўжо падрыхтавана, супрацоўнікам «БМ» было даведзена: праграма здымаецца з эфіру, на яе месца ставіцца праграма дзіцячай рэдакцыі. Тады ж журналісты даведаліся, што кіраўніцтвам прынята рашэнне, аб'яднаўшы «Крыніцу» з «БМ», стварыць з іх рэдакцыю другой праграмы радыё, а дзевяць супрацоўнікаў з «Маладзёжнай» пакінулі на першым канале ў якасці аддзела дзіцячай (?!) рэдакцыі. Кіраўніцтвам вырашана адхіліць ад працы, — паведамілі радыёжурналістам, — рэдактараў абедзвюх праграм — Алену Сцяпанаву і Жану Літвіну, а таксама журналістаў «Беларускай маладзёжнай» Алену Радкевіч, Віталя Сямашку і Таццяну Нічыпарук, не падпісаўшы з імі кантрактаў аб працаўладкаванні. Загаду аб закрыцці праграмы ў той дзень іх супрацоўнікам не паказалі, што выклікала сумненне ў яго існаванні. Тым не менш 28 траўня «Беларуская маладзёжная» ў эфір не выйшла. А 30 траўня яе калектыў прыняў заяву, цытата з якой падаецца ніжэй: «Сёння ясна, што паспешліва і келейна праведзеная рэарганізацыя носіць наменклатурны характар. Мэтай

*МЕРКАВАННІ*

## Неабходна ўзвесці помнік

ЛІЧУ, што настала пара манументальна ўславіць у беларускай сталіцы выдатную асобу легендарнага нашага палкаводца Кастуся Астрожскага (1460—1530), які паходзіў з турава-пінскіх князёў. Рэзідэнцыя князя знаходзілася ў г.Астрозе на Валыні, адсюль — і прозвішча. Астрожскі ў 63 бітвах перамагаў маскоўскія і татарскія войскі. У трыццацісямігадовым узросце ён атрымаў вышэйшы вайсковы чын гетмана Вялікага Княства Літоўскага.

Асабліва гетман Астрожскі праславіўся перамогай у гістарычнай бітве з маскоўцамі 8 верасня 1514 года пад Оршай. Беларускае войска пад яго кіраўніцтвам (30 тысяч чалавек) тады разграміла рускую армію (звыш 80 тысяч) і гэтым адстаяла дзяржаўную незалежнасць Вялікага Княства. Пра вынікі згаданай бітвы адразу даведалася ўся тагачасная цывілізаваная Еўропа. Гетманам захапляліся, называючы яго другім Ганібалам. Таму 8 верасня з'яўляецца днём сапраўднай вайсковай славы беларусаў. Між тым імя славутага гетмана ў нас дагэтуль замоўчваецца. Напрыклад, у Менску няма ні

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# «МАЛАДЗЁЖНАЯ»?

яе з'яўляецца расправа над калектывам з больш як 30-гадовай гісторыяй і традыцыямі, які адкрыта выступіў у падтрымку маладое беларускае дзяржаўнасці, незалежнасці, адраджэння, за права на слова розным палітычным плыням і сацыяльным групам». Супрацоўнікі «БМ» распачалі калектыўны страйк, патрабуючы аднаўлення яе як самастойнай праграмы і захавання старога складу рэдакцыі. Тым часам замест перадач, рыхтаваных журналістамі «Беларускай маладзёжнай», у эфіры гучала музыка, нагадваючы пра не такія ўжо далёкія часы, калі палітычныя перастаноўкі ў Крамлі ламалі планы ўсіх радыёстанцый.

У той жа дзень, 30 траўня, з развітальнай праграмай у эфір выйшла «Крыніца». А ўжо 31 яе месца ў эфіры заняла безыменная праграма. 1, 2 і 3 чэрвеня на другой праграме замест былых «БМ» і «Крыніцы» зноў гучала адна музыка. А ў панядзелак 8 чэрвеня ў эфіры загучаў голас новага кіраўніка другой праграмы Беларускага радыё Уладзіміра Дзюбы. Патлумачыўшы слухачам сэнс падзей, ён абвясціў: праца працягваецца. Але так не адбылося: калектыў «Беларускай маладзёжнай» працягнуў страйк, а большасць журналістаў «Крыніцы» напісала заявы аб прыёме на другую праграму. З гэтага дня на другой праграме Беларускага радыё ў час, вольны ад трансляцыі расійскага «Маяка», гучыць праграма без назвы, без пазыўных і без прэтэнзій на арыгінальнасць.

Увогуле, адбылося тое, што мела адбыцца. Дзяржаўнае радыё пазбавілася праграмы журналістаў, якія спрабавалі трактаваць падзеі як у Беларусі, так і па-за яе межамі са сваёй, неадпаведнай урадавай, пазіцыі. Але ж у гэтым канфлікце існаваў і трэці бок, на інтарэсы якога не зважаў ніхто, — ім была мільённая аўдыторыя слухачоў. Дык што ж атрымала і што страціла ў выніку праведзеных на радыё змен менавіта яна? Цяпер замест розных пунктаў гледжання на падзеі слухачам прапануецца адзіны — урада, прадстаўлены ўрадавым жа органам — інфармацыйным агенцтвам «Белінфарм». Замест навін ад агенцтваў «БелаПАН», «Рэйтэр» ці навінаў Бі-Бі-Сі гучыць —праўда, па-беларуску! — інфармацыя ўрадавага агенцтва Расіі -ІТАР-ТАСС. Але нават яна падаецца не цалкам, а толькі пасля праходжання цэнзуры ўсё таго ж «Белінфарма».

Вось што я пачуў падчас размовы з Віталем Сямашкам — намеснікам галоўнага рэдактара ўжо не існуючай «Беларускай маладзёжнай»:

— Мы лічылі, што існуем не на грошы ўрада і Савета Міністраў, а на сродкі беларускіх падаткаплацельшчыкаў. Жывучы ў неаднародным грамадстве, мы імкнуліся адлюстроўваць розныя погляды, даваць слова розным палітычным плыням і сацыяльным групам. Мы імкнуліся быць не ўрадавай, а нацыянальнай праграмай, яшчэ ў 1992 годзе адкрыта стаўшы на пазіцыі падтрымкі беларускай дзяржаўнасці. Менавіта таму «Беларуская маладзёжная» была больш дзяржаўнай праграмай, чым самое Беларускае радыё, якое далёка не заўсёды імкнулася бараніць інтарэсы дзяржавы. Менавіта адсюль паходзіць наш прынцып беларусамоўнасці. Нават імкнучыся пашырыць слухацкую аўдыторыю, мы ішлі шляхам не прыўнясення ў перадачы маладзёжнага слэнгу, а ўдасканалення эстэтыкі мовы, вяртання дарэформеннага маўлення. Нас абвінавацілі ў тэндэнцыйнасці, але ж нашы праграмы не станавіліся больш вострымі ці сапраўды тэндэнцыйнымі. Проста мы захоўвалі свае пазіцыі ў той час, калі ўсе праграмы радыё імкнуліся дагадзіць ураду. Гэтыя нажніцы разыходзіліся ўсё болей, зрабіўшы нас непатрэбнымі. Але пункт гледжання рэдакцыі «БМ» быў пунктам гледжання беларусаў. І калі б на пазіцыю абароны беларускай дзяржаўнасці стаў лідэр ленінскага камсамола Вазняк, мы, не разважаючы, далі б яму слова ў эфіры незалежна ад яго палітычных перакананняў.

— Меркаванні старшыні расійскай Партыі кансалідацыі аб указах Прэзідэнта Расіі;

— заява міністра замежных спраў Расіі аб неабходнасці працягу інтэграцыі ў межах СНД;

— заява намесніка міністра ядзернай энергетыкі Расіі аб магчымасці прыватызацыі ці акцыянавання расійскіх АЭС;

— абранне новага прэм'ер-міністра Украіны;

— падтрымка аперацый расійскіх войск у Абхазіі ўрадам Грузіі;

— інцыдэнт на расійска-кітайскай мяжы;

— экспедыцыя расійскага Камітэта па надзвычайных становішчах на месца гібелі атамнай субмарыны «Комсомолец»;

— пачатак падачы Расіяй электраэнергіі ў Абхазію;

— перамовы ўрада Таджыкістана з апазіцыяй.

*Гэткая падборка навінаў з краін СНД прагучала па другой праграме Беларускага радыё ўранні 17 чэрвеня. І яна тыповая. Калі ўспомніць, што ад пазіцыі ўкраінскага прэм'ера залежыць лёс Чарнаморскага флоту Расіі, і тое, што Збройныя сілы Расіі бяруць удзел у збройным канфлікце ў Таджыкістане, дык няцяжка зразумець, пункт гледжання ўрада якой краіны прадстаўляе другая праграма радыё Беларусі.*

*Дык у што ператворыцца Беларускае радыё, якое толькі на кароткі час здолела стаць беларускім? Якому народу будзе яно служыць?*

**У.ПАНАДА.**

## МЕРКАВАННІ

вуліцы, ні нават завулка ў гонар гэтага выдатнага абаронцы дзяржаўнай незалежнасці беларусаў.

Ёсць у сталіцы гожае месца, дзе ў блізкім часе неабходна ўзвесці помнік К.Астрожскаму. Я маю на ўвазе сучасную плошчу Калініна, дзе высіцца помнік «всесоюзному старосте» — аднаму з крывавых сталінскіх памагатых, арганізатару генацыду супраць беларусаў у перыяд культу асобы. Зразумела, што гэты помнік належыць дэмантаваць, замяніць яго помнікам выдатнаму гетману К.Астрожскаму. Адпаведна трэба перайменаваць у гонар гетмана ўсю гэту плошчу. Такім чынам мы будзем садзейнічаць усталяванню гістарычнай праўды.

Мае думкі наконт гэтага падзяляюць і астатнія сябры менскага клуба «Спадчына».

**Генадзь ЛАНЕЎСКІ,**
**ветэран вайны і працы,**
**капітан у адстаўцы.**

ПЕРАДРУК

***У Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце шмат зроблена дзеля выканання Закона аб мовах. Добрым прыкладам для ўсіх тут з'яўляецца сам рэктар — акадэмік Леанід Міканоравіч Ціканаў. Размову з ім, надрукаваную ў шматтыражнай газеце БДПУ «Настаўнік», прапануем нашым чытачам.***

# ЗАХАВАЦЬ РОДНАЕ СЛОВА

**— Леанід Міканоравіч, як Вы лічыце, беларуская мова госця або гаспадыня ў галоўнай педагагічнай ВНУ рэспублікі?**

— Спадзяюся, што становіцца паўнапраўнай гаспадыняй. Яна часцей і часцей чуецца на калідорах, упэўнена гучыць у студэнцкіх аўдыторыях, натуральна выкарыстоўваецца ў зносінах.

**— З наданнем роднай мове статуса дзяржаўнай у нашым універсітэце шмат робіцца для стварэння беларускамоўнага асяроддзя. Які шлях абралі Вы як кіраўнік буйной педагагічнай установы для выканання Закона аб мовах?**

— Пасля стварэння неабходнай юрыдычнай асновы — выпрацоўкі адпаведных дзяржаўных дакументаў, выдання загадаў — пачынаецца самае цяжкае. Па-першае, трэба арганізаваць людзей, каб выкладчыкі пачалі выконваць свае абавязкі на роднай мове, а студэнты гэта натуральна і станоўча ўспрымалі. Па-другое, распачаць падрыхтоўку падручнікаў і дапаможнікаў, такіх неабходных у навучальным працэсе. А ўсё гэта вельмі складана і патрабуе пэўных намаганняў, а таксама даволі вялікіх часовых тэрмінаў. Таму, я ўпэўнены, слабае, павольнае выкананне ў Рэспубліцы Закона аб мовах звязана, перш за ўсё, не з негатыўнымі адносінамі да мовы кіраўнікоў і супрацоўнікаў навучальных устаноў, а менавіта з названымі цяжкасцямі. Нягледзячы на гэта, вучоныя універсітэта прыйшлі да высновы, што нам не падыходзіць палітыка чакання. Таму мы вырашылі дзейнічаць адразу ў некалькіх напрамках. А дакладней: падрыхтаваць базу, на падставе якой Закон выконваўся б (распрацоўка лекцый, выданне падручнікаў і дапаможнікаў), і адначасова ствараць беларускамоўнае асяроддзе, дзе б родная мова гучала натуральна для ўсіх удзельнікаў навучальна-выхаваўчага працэсу.

**— Ці можна ўжо цяпер сказаць, наколькі правільным быў абраны шлях?**

— Мяркуйце самі. З мінулага года навучанне першакурснікаў вядзецца на беларускай мове. Ужо на працягу трох гадоў фізічны і матэматычны факультэты працуюць толькі на роднай мове. Добра, на наш погляд, ідуць справы ў дачыненні да беларусізацыі на факультэтах дашкольнага выхавання, педагогікі і методыкі пачатковага навучання, гістарычным і дэфекталагічным. Як мне вядома, не перайшлі на выкладанне пабеларуску на 1-м курсе толькі 19 выкладчыкаў. А гэта, як бачыце, адзінкі.

**— Своеасаблівасць нашай рэспублікі заключаецца ў тым, што некаторых яе грамадзян даводзіцца пераконваць у неабходнасці вывучэння роднай мовы, тлумачыць неабходнасць гэтага, ствараць спрыяльныя ўмовы. Як у гэтым плане ідуць справы ва універсітэце?**

— Для тых, хто не ведае, але хоча вывучыць беларускую мову, створаны універсітэт беларусазнаўства, дзе спалучаюцца паглыбленне ведаў выкладчыкаў па мове і знаёмства з гісторыяй і культурай народа. Гэта, зразумела, станоўча ўплывае на павышэнне кваліфікацыі педагогаў.

Акрамя названага, у нас працуе атэстацыйная камісія, мэта якой — кваліфікавана ацаніць веды выкладчыка па мове і дазволіць на ёй выконваць свае службовыя абавязкі. Афіцыйна «праз камісію» прайшло каля 400 чалавек. Усе яны атрымалі 10-працэнтную надбаўку да акладаў па пасадзе. Таму, нягледзячы на тое, што атэстацыя — справа добраахвотная, вывучэнне роднай мовы мы нейкім чынам можам стымуляваць. Увогуле, адносіны да атэстацыйнай камісіі ў розных ВНУ рэспублікі неадназначныя, і дадатак да заработнай платы за выкладанне па-беларуску атрымліваюць не ўсюды. Я лічу, што гэта памылковая пазіцыя. Мы, напрыклад, выплачваем 10-працэнтную надбаўку нават выкладчыкам факультэта беларускай мовы і культуры. Гэта зразумела, бо яны працуюць не толькі на карысць свайго факультэта, а і ўсяго універсітэта ў цэлым, выконваючы вялікую і разнастайную працу па ажыццяўленні Закона аб мовах, Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў.

**— Навучальны працэс у БДПУ забяспечваюць як выкладчыкі, так і вялікі штат вучэбна-дапаможнага персаналу. Якім будзе іх уклад у выкананне Закона аб мовах?**

— Зараз мы пачынаем працаваць і па гэтаму пытанню. Лічым, што не толькі лабаранты, а і супрацоўнікі ўсіх падраздзяленняў, аддзелаў і службаў павінны выконваць свае службовыя абавязкі на беларускай. Для іх будуць ствараца спецыяльныя курсы па вывучэнні роднай мовы. А мы, у сваю чаргу, прадумаем, як маральна і матэрыяльна заахвочваць іх ініцыятыву.

Беларуская мова таксама ўкараняецца і ў бібліятэчную справу. Мы спецыяльна распрацоўваем праграмы, якія б дазвалялі працаваць на ёй у рэжыме найноўшых камп'ютарных тэхналогій.

**— Што трэба зрабіць дзеля таго, каб родная мова стала натуральным сродкам зносін ва універсітэце?**

— Перш за ўсё, ствараць беларускамоўнае асяроддзе. Так, пры ўкараненні універсітэцкай сістэмы навучання ўсе новыя формы вучэбнай работы (я маю на ўвазе бакалаўрскія, магістэрскія курсы) наладжваюцца такім чынам, каб беларуская мова была іх неад'емнай часткай. Толькі ў гэтым выпадку мы зможам выканаць сваю задачу — рыхтаваць нацыянальныя педагагічныя кадры.

— Увогуле, паняцце асяроддзе шырокае. Яно ўключае нават знешні выгляд ВНУ. Канешне, у распрацоўцы праграмы афармлення аўдыторый і пакояў з элементамі нацыянальнай сімволікі, народных матываў нас стрымліваюць матэрыяльныя фактары. Але мы зробім усё, каб студэнт, што прыйдзе да нас, адразу адчуў нацыянальны каларыт, адчуў сваю прыналежнасць да Бацькаўшчыны.

Беларускамоўнае асяроддзе прадугледжвае таксама ўвядзенне дадатковых спецкурсаў і спецсемінараў па падрыхтоўцы кіраўнікоў мастацкай самадзейнасці, гуртковай работы. Гэта нам дапаможа падрыхтаваць настаўніка, які б нёс нацыянальную культуру ў вучнёўскія калектывы. Такая праграма распрацавана і ўжо ажыццяўляецца ва універсітэце.

**— Чым абумоўлена ўвядзенне гутаркі па беларускай мове з абітурыентамі?**

— На жаль, школа яшчэ не спраўляецца са сваёй задачай у падрыхтоўцы выпускнікоў па беларускай мове. Гутарка з абітурыентамі дае нам магчымасць высветліць узровень ведаў учарашніх школьнікаў, а таксама настроіць іх на сур'ёзныя адносіны да вывучэння роднай мовы, папярэдзіць, што выпускнікі нашай установы павінны быць адукаваныя і пісьменныя спецыялісты. Гэта ж трагедыя, калі настаўнік дапускае памылкі пры пісьме!

**—Сення выкладчыкі вымушаны выконваць задачы школы. Але ў далейшым, спадзяёмся, сітуацыя зменіцца... Як будзе будзе выкарыстоўвацца ў будучым тая вялікая колькасць гадзін, якая адводзіцца цяпер на вывучэнне беларускай мовы?**

— Мы пойдзем па шляху паглыблення ведання тэрміналогіі ў дачыненні да спецыяльнасці, а таксама па гісторыі, культуры, краязнаўству. Такім чынам будзе ажыццяўляцца гуманітарная падрыхтоўка ўсіх нашых выпускнікоў нефілалагічнага профілю, і прыродазнаўча-навуковая — на мовазнаўчых факультэтах. Гэта не наша адкрыццё, што інтэлігентны чалавек павінен мець пэўны аб'ём ведаў з усіх галін навукі. У замежжы ёсць вышэйшыя школы, якія ўжо вырашаюць аналагічныя праблемы. Лічу, што ўзровень прафесарска-выкладчыцкага саставу дазволіць і нашаму універсітэту рыхтаваць нацыянальныя педагагічныя кадры на сучасным узроўні, а таксама выхоўваць сапраўдных інтэлігентаў. Да выканання гэтых задач мы і імкнёмся.

## ГІСТОРЫЯ АЙЧЫНЫ — ВАЙСКОЎЦАМ

*МВБІЧ*

# Беларусы: Першая сусветная вайна.

*(Працяг. Пачатак у N 27.)*

У Віцебску першым узнік савет салдацкіх дэпутатаў, які быў выбраны 5 сакавіка на сходзе прадстаўнікоў усіх часцей гарнізона. У Гомелі 4 сакавіка адбыліся асобныя агульнагарадскія сходы прадстаўнікоў рабочых і салдат, дзе былі выбраны адпаведныя саветы. 6 сакавіка на іх сумесным пасяджэнні ўтварыўся аб'яднаны савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Асаблівую ўвагу ён надаў стварэнню народнай міліцыі.

Аналагічным чынам пачыналі сваю дзейнасць саветы і ў іншых гарадах і мястэчках Беларусі. Саветы прызнавалі кіраўнічую ролю Петраградскага савета і па яго прыкладу — Часовы ўрад, але пры ўмове адпаведнасці дзейнасці апошняга інтарэсам народа. Паралельна з саветам органы ўлады ўзнікалі спачатку як часовыя гарадскія грамадскія камітэты. Ініцыятыва іх стварэння, як правіла, зыходзіла ад дзеячаў земскага і гарадскога самакіравання. У Менску 4 сакавіка быў створаны «Часовы грамадскі камітэт парадку», куды ўвайшлі прадстаўнікі земскага і гарадскога саюзаў, савета рабочых дэпутатаў і начальнік гарадской міліцыі. Неўзабаве склад камітэта папоўніўся прадстаўнікамі іншых грамадскіх арганізацый. Падобныя камітэты ў тыя ж дні ствараліся ў Віцебску, Магілёве, Гомелі, Полацку, іншых гарадах Беларусі.

У адрозненне ад саветаў, якія не мелі папярэднікаў, Часовы ўрад абапіраўся на месцах на грамадска-дзяржаўныя структуры, створаныя пры царызме (найперш — земствы і органы гарадскога самакіравання). Праўда, кіраўніцтва імі перайшло да прамых паслугачоў новага ўрада — губернскіх і павятовых камісараў, якія назначаліся з ліку старшынь губернскіх і павятовых земскіх управ. Дасягнутае ў сталіцы пагадненне паміж саветам рабочых і салдацкіх дэпутатаў, з аднаго боку, і Часовым урадам, з другога, перадвызначыла мірныя ўзаемаадносіны паміж адпаведнымі органамі ўлады і на перыферыі. Саветы і тут не перашкаджалі стварэнню грамадскіх камітэтаў парадку, фактычна падпарадкоўваючыся ім і іншым мясцовым органам урада.

Грамадзянская актыўнасць гарадскіх рабочых і служачых на Беларусі ў першыя дні рэвалюцыі праявілася і ў масавым руху, звязаным з утварэннем прафесійных саюзаў. У Менску з 12 па 21 сакавіка адбыліся агульнагарадскія сходы шаўцоў, краўцоў, друкароў, пекараў, рабочых і служачых майстэрняў Аляксандраўскай чыгункі, прыказчыкаў і служачых гандлёвых устаноў, палявых паштова-тэлеграфных служачых і тэлефаністаў фронту, фармацэўтаў і служачых аптэк, рабочых, што шылі ваеннае абмундзіраванне, гандлёва-прамысловых служачых, работніц папяроснай фабрыкі Земскага саюза, рабочых механічнага завода «Молат». На гэтых сходах выбіраліся камісіі і бюро для распрацоўкі статутаў прафсаюзаў, фабрычныя і заводскія камітэты. Да канца сакавіка арганізацыйна аформіліся агульнагарадскія саюзы краўцоў, гарбароў, пераплётчыкаў. Аналагічны рух разгортваўся і ў іншых гарадах Беларусі.

Пасля звяржэння самадзяржаўя рабочымі ўсё часцей выстаўляліся патрабаванні аб паляпшэнні свайго эканамічнага становішча, скарачэнні рабочага дня, павелічэнні платы і інш. Уласнікі прадпрыемстваў ва ўмовах рэвалюцыі звычайна задавальнялі патрабаванні агульных сходаў рабочых. Калі гэтага не здаралася, то рабочыя аб'яўлялі стачку.

Часовы ўрад і ваеннае камандаванне імкнуліся захаваць у арміі «цэласнасць і непахіснасць», «адзінства, згуртаванасць і цвёрды ўнутраны парадак». Працягвалася палітыка вайны да перамогі. На такой жа пазіцыі стаялі і сацыялістычныя партыі, што складалі пераважную большасць у саветах — эсэраў і меншавікоў, якім масы, у тым ліку салдацкія, тады давяралі. Гэта на пэўны час стрымала распад арміі.

Рэвалюцыя і пастановы саветаў аб грамадзянскіх правах салдат паклалі пачатак дэмакратызацыі войска. Часовы ўрад і камандаванне арміі вымушаны былі пагадзіцца з гэтым. Стаўка Вярхоўнага галоўнакамандуючага загадала штабу Заходняга фронту стаць на шлях кампрамісу з саветам.

Выбары салдацкіх камітэтаў пачаліся ў сакавіку — красавіку. У канцы жніўня 1917 г. на Заходнім фронце дзейнічалі 7284 камітэты, у тым ліку 60 дывізійных, 15 карпусных і 3 армейскія. Абараняючы грамадзянскія правы салдат, камітэты пастаянна ўмешваліся ў іх узаемаадносіны з афіцэрамі і часта выказвалі недавер апошнім. Нярэдкія былі выпадкі адхілення афіцэраў і генералаў ад пасады і арыштаў іх. Але ўзаемаадносіны паміж салдатамі і афіцэрамі працягвалі абвастрацца. Пачашчаліся выпадкі адмовы цэлых дывізій падпарадкавацца камандаванню, яшчэ больш масавым стала дэзерцірства.

На фронце склалася двоеўладдзе, што паскорыла разлажэнне войска. Найбольш актыўна і мэтанакіравана займаліся такой разбуральнай дзейнасцю бальшавікі, якія па ініцыятыве У.І.Леніна ў красавіку 1917 г. узялі курс на «сацыялістычную рэвалюцыю», г.зн. на захоп улады. Чыста палітычны і асветніцка-культурны рух, які спрабавалі арганізаваць у войску саветы, вельмі хутка пераплёўся з антываенным, непасрэдна накіраваным супраць афіцэрскага корпуса, які ў пераважнай большасці выступаў за працяг вайны.

7—17 красавіка 1917 г. у Менску адбыўся 1 з'езд ваенных і рабочых дэпутатаў армій і тылу Заходняга фронту. Удзельнічалі ў ім звыш 700 чалавек. Па пытанні аб вайне з'езд услед за саветамі падтрымаў заяву Часовага ўрада ад 28 сакавіка, у якой дэкларавалася, што мэта свабоднай Расіі — «не панаванне над іншымі народамі, не адняцце ў іх нацыянальнага багацця, не гвалтоўны захоп чужых тэрыторый, а ўсталяванне трывалага міру на аснове самавызначэння народаў». З'езд заклікаў усе народы, што ўдзельнічалі ў вайне, дамагацца ад сваіх урадаў пераходу на такія ж пазіцыі ў адносінах да вайны і міру. Да таго ён прызнаваў неабходным для Расіі працягваць вайну з мэтай абароны рэвалюцыі. Як і саветы, з'езд падзяляў прынцып умоўнай падтрымкі палітыкі Часовага ўрада і прызнаў неабходным пастаянны кантроль за ім з боку Петраградскага савета.

З'езд зацвердзіў Палажэнне аб салдацкіх камітэтах і вызначыў іх задачы. Яны павінны былі аб'ядна салдат і афіцэраў у ротах, палках, дывізіях, карпусах і ў маштабах фронту. Пры гэтым званне «афіцэр» скасоўвалася. На армейскім узроўні ствараліся саветы салдацкіх дэпутатаў. Франтавы камітэт у палітычных адносінах падпарадкоўваўся цэнтральнаму выканаўчаму камітэту саветаў.

З'езд выказаўся за прадастаўленне салдатам усіх правоў і свабод, якія атрымалі расійскія грамадзяне ў выніку рэвалюцыі, у тым ліку свабоды слова, друку, сходаў, саюзаў, сумлення. Ён адмяніў асобныя суды і меры пакарання для салдат, а таксама розныя абмежаванні іх правоў па-за службай. Разам з тым з'езд падкрэсліў неабходнасць захавання ваеннай дысцыпліны на службе, асудзіў дэзерцірства як ганьбу і здраду рэвалюцыі і заклікаў дэзерціраў добраахвотна вярнуцца ў свае часці.

Па рабочым пытанні з'езд прызнаў свабоду класавай барацьбы і класавых аб'яднанняў рабочых і права іх на арганізацыю забастовак, сходаў, вулічных маніфестацый і дэманстрацый. Ён прапанаваў ураду выдаць дэкрэты аб вызначэнні мінімуму заработнай платы і павышэнні яе ў адпаведнасці з ростам дарагоўлі, аб увядзенні 8-гадзіннага рабочага дня без памяншэння заработкаў, аб распаўсюджанні нагляду інспекцыі працы на ўсе сферы ўжывання наёмнай працы і інш.

На франтавым з'ездзе было разгледжана і аграрна-сялянскае пытанне. Былі прыняты прапановы аб скасаванні сасловяў і ўстанаўленні поўнага грамадзянскага раўнапраўя сялян, аб неадкладнай канфіскацыі царкоўных і манастырскіх зямель, але поўнае вырашэнне аграрнага пытання адкладвалася да Устаноўчага сходу. Разам з тым з'езд выступіў супраць самавольных захопаў зямлі, выказаўся за неадкладныя выбары саветаў сялянскіх дэпутатаў і саветаў дэпутатаў сельскагаспадарчых рабочых, за іх арганізацыйнае ўзаемадзеянне з саветамі рабочых і салдацкіх дэпутатаў.

Сваімі рашэннямі з'езд замацаваў перамогу буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў войсках, што знаходзіліся на Беларусі. Іх прадстаўнікі цалкам падтрымалі дэмакратычныя пераўтварэнні ў краіне і прынялі меры супраць разлажэння арміі.

Да звяржэння самадзяржаўя сялянства Беларусі ў цэлым аднеслася станоўча. Аднак прыкметнага руху сялян вестка аб перамозе рэвалюцыі не выклікала.

20 красавіка 1917 г. у Менску адкрыўся з'езд сялянскіх дэпутатаў Менскай і суседніх неакупаваных немцамі паветаў Віленскай губерні, скліканы падрыхтоўчым камітэтам, які ўзначальваў М.Фрунзе. Па пытанні аб вайне сялянскія дэлегаты падтрымалі патрабаванне хутчэйшага адначасовага заключэння ўсімі краінамі, што ваявалі, справядлівага міру без анексій і кантрыбуцый, а да таго моманту прызналі неабходным для Расіі працяг вайны. З'езд асудзіў дэзерцірства і заклікаў сялян зрабіць усё, каб даць арміі хлеб і ўзмацніць яе магутнасць. Вырашэнне аграрнага пытання дэлегаты адкладвалі да Устаноўчага сходу, пры гэтым яны выказаліся за пераход усёй зямлі ў агульнанародную ўласнасць і ўраўняльнае землекарыстанне па працоўнай норме, за адмену прыватнай уласнасці на зямлю, забарону яе куплі-продажу. Самавольныя захопы зямлі асуджаліся. Саветы прызнаваліся арганізацыяй сялянства.

Пасля перамогі Лютаўскай рэвалюцыі аднавіла сваю дзейнасць і Беларуская сацыялістычная грамада. Адначасова ўзнікла шмат іншых нацыянальных арганізацый, гурткоў, суполак, згуртаванняў не толькі на тэрыторыі Беларусі, але і ў Петраградзе, Маскве, іншых гарадах краіны, дзе было шмат беларусаў-бежанцаў.

25—27 сакавіка 1917 г. у Менску адбыўся з'езд прадстаўнікоў беларускіх нацыянальных арганізацый, у якім удзельнічалі да 150 чалавек. Старшынёй з'езда быў абраны старэйшы дзеяч беларускай культуры, адзін з заснавальнікаў Грамады Казімір Кастравіцкі (Карусь Каганец). З'езд заслухаў інфармацыі аб дзейнасці беларускіх арганізацый у Петраградзе, Бабруйску, Яраслаўлі, праграмныя дэкларацыі іншых арганізацый. Ад імя Петраградскага савета з'езд вітаў З.Жылуновіч (Цішка Гартны). З'езд паслаў тэлеграмы Часоваму ўраду, Петраградскаму савету, салдатам-акопнікам, нацыянальным арганізацыям украінцаў, літоўцаў і інш.

Аднадушны пратэст з'езда выклікала выступленне выбранага ў прэзідыум афіцыйнага прадстаўніка мясцовых улад — памочніка губернскага камісара, эсэра І.Метліна, які выказаўся за неабходнасць захавання адзінай і непадзельнай Расіі. Метлін прызнаў пастаноўку беларускага нацыянальнага пытання нясвоечасовай і надуманай. Гэта выступленне было ацэнена як чарнасоценнае. У выніку Метлін быў вымушаны пакінуць не толькі прэзідыум, але і з'езд.

Дэлегаты прызналі неабходным хутчэйшае стварэнне ў Менску Беларускай краёвай рады. Да выбараў апошняй з'езд абвясціў сябе «вышэйшай краёвай інстытуцыяй», а сваім выканаўчым органам — Беларускі нацыянальны камітэт (БНК), якому даручалася падрыхтаваць выбары ў Беларускую краёвую раду. З'езд выставіў патрабаванне дзяржаўнай аўтаноміі Беларусі ў складзе федэратыўнай дэмакратычна-рэспубліканскай Расіі. Пры гэтым беларускімі прызнаваліся Менская, Гродзенская, Магілёўская, часткі Смаленскай і Чарнігаўскай губерняў, але для дакладнага вызначэння этнаграфічных граніц Беларусі была прынята прапанова аб стварэнні спецыяльнай камісіі ў складзе вядомых вучоных: М.Любаўскага, М.Доўнар-Запольскага, Я.Карскага і А.Шахматава.

Пераважную большасць членаў БНК складалі прадстаўнікі разначыннай беларускай інтэлігенцыі, дробныя служачыя. Але разам з імі былі выбраны і буйны памешчык-прадпрымальнік, у мінулым дэпутат І Дзяржаўнай думы Р.Скірмунт. Раней ён прытрымліваўся польскай арыентацыі, але пасля рэвалюцыі далучыўся да беларускага нацыянальнага руху. БНК са свайго складу выбраў прэзідыум з пяці асоб, куды ўвайшлі Р.Скірмунт (старшыня), П.Аляксюк, Н.Фальскі, Л.Заяц (скарбнік) і Б.Тарашкевіч (сакратар). Скірмунт быў уключаны і ў склад дэлегацыі для перагавораў з Часовым урадам.

Часовы ўрад стаяў на пазіцыях захавання «адзінай і непадзельнай Расіі». Дэлегацыю Беларускага нацыянальнага з'езда старшыня ўрада Львоў і міністр юстыцыі Керанскі адмовіліся нават прыняць.

Супраць беларускага нацыянальнага руху, як і раней, адзіным фронтам выступалі рускія вялікадзяржаўнікі ўсіх палітычных накірункаў — ад былых чарнасоценцаў да эсэраў і бальшавікоў. Чарнасоценцы, праўда, «перафарбаваліся» ў дэмакратаў і ствалалі такія арганізацыі, як «Саюз беларускай дэмакратыі» ў Гомелі, «Беларускі нацыянальны камітэт» у Магілёве, «Саюз беларускага народа» ў Віцебску і інш.

Цалкам салідарнымі з чарнасоценцамі па гэтым пытанні аказаліся і расійскія дэмакраты розных ідэйна-палітычных накірункаў. Рэзалюцыя Менскага камітэта Усерасійскага сялянскага саюза, апублікаваная 6 красавіка 1917 г., беспадстаўна характарызавала Беларускі нацыянальны камітэт як нацыяналістычную арганізацыю маёмасных пластоў беларускага народа, найперш землеўласнікаў, якая быццам пагражала інтарэсам сялян і рабочых. Ідэнтычныя ацэнкі Беларускаму нацыянальнаму камітэту даў і ўзначалены М.Фрунзе Выканаўчы камітэт савета сялянскіх дэпутатаў Менскай і Віленскай губерняў.

**Матэрыял скарочаны, тэкст падрыхтаваў Мар'ян ВІЖ.**

— Бачыў я непадкупных суддзяў, — гаварыў Жан Марто, — было гэта на карціне. Я тады пераехаў у Бельгію, каб уцячы ад аднаго дапытлівага суддзі, які хацеў мяне арыштаваць за тое, што я нібыта быў у змове з анархістамі. Я не ведаў маіх саўдзельнікаў, і яны не ведалі мяне. Але гэта ніяк не перашкаджала майму суддзю. Нічога яго не хвалявала. За ўсё сваё жыццё ён нічому не навучыўся, а сам павучаў усіх. Яго манія мяне спалохала. Я пераехаў у Бельгію і апынуўся ў Антверпене, дзе знайшоў месца вучня бакалейшчыка. Аднойчы ў нядзелю я і ўбачыў гэтых двух непадкупных суддзяў. У музеі, на палатне Мабюса.

Такіх суддзяў цяпер ужо няма. Я хачу сказаць, што ўсё іх жыццё праходзіла ў паездках. Яны ехалі трушком на сваіх коніках. Узброеныя людзі з коп'ямі і пратазанамі (вялікае кап'ё з плоскім наканечнікам, абкручанае яркай тканінай ці размаляванае фарбамі) былі ім эскортам. Гэтыя два суддзі, валасатыя і барадатыя, былі апрануты, як каралі са старадаўніх фламандскіх Біблій. Іх мудрагелістыя і пышныя прычоскі здаваліся ці то начнымі каўпакамі, ці то царскімі вянцамі. Іх парчовыя мантыі былі размаляваны кветкамі. Стары майстар здолеў надаць ім паважны, спакойны і лагодны выгляд. Такімі ж спакойнымі і лагоднымі былі іх коні. Аднак суддзі не мелі ні падобных характараў, ні супадаючых поглядаў. Гэта было бачна адразу. Адзін суддзя трымаў у руцэ паперу і паказваў пальцам штосьці ў тэксце. Другі, паклаўшы левую руку на луку сядла, узнімаў другую жэстам, хутчэй ветлівым, чым уладарным. Здавалася, што суддзя трымае паміж вялікім і ўказальным пальцамі нейкі нябачны пылок. І гэты жэст яго клапатлівай рукі паказваў думку разважлівую і праніклівую. Яны былі непадкупныя абодва, але першы суддзя прытрымліваўся літары законаў, а другі — іх духу. Абапёршыся на бар'ер, што агароджваў іх ад публікі, я слухаў іх размову.

**Першы суддзя** гаварыў: «Я прытрымліваюся таго, што напісана. Самы першы закон быў напісаны на камені ў знак таго, што ён будзе існаваць, пакуль існуе свет».

**Другі адказваў**: «Кожны напісаны на паперы закон ужо не можа выкарыстоўвацца, таму што рука пісца марудная, а думка людская хуткая, і лёс людзей няўстойлівы, — і абодва старыя суддзі падоўжылі сваю павучальную размову».

**Першы** — Закон заўсёды нязменны.

**Другі** — Ні ў які момант закон не замацаваны.

**Першы** — Паходзячы ад Бога, ён непахісны.

**Другі** — Натуральны прадукт грамадскага жыцця, ён заўсёды залежыць ад зменлівых умоў гэтага жыцця.

**Першы** — Гэта воля Бога, а яна нязменная.

**Другі** — Гэта воля людзей, якая мяняецца бесперапынку.

**Першы** — Ён быў створаны раней за чалавека і ім кіруе.

**Другі** — Ён створаны чалавекам, знявечаны, як сам чалавек, і паддаецца ўдасканаленню.

**Першы** — Суддзя, разгарні сваю кнігу і прачытай тое, што там напісана. Бо гэта Бог даў яе тым, хто верыць у яго: Sic locutus est patribus nostris, Abraham et semini ejus in soecula (І гаворыць Аўраам радзіме нашай, насенню яе на вякі вечныя).

**Другі** — Тое, што напісана людзьмі, цяпер ужо мёртвымі, будзе выкраслена жывымі. Калі ж гэтага не адбудзецца, воля нябожчыкаў усталюецца над жывымі, і мерцвякі стануць жывымі, а жывыя — мёртвымі.

**Першы** — Жывыя павінны падпарадкоўвацца законам мёртвых, таму што і жывыя, і мёртвыя — усе роўныя перад Богам. Майсей і Кір, Цэзар, Юстыніян і германскі імператар правяць намі і цяпер, бо мы іх сучаснікі перад Усявышнім.

**Другі** — Жывыя павінны прытрымлівацца сваіх законаў. Зараастр і Нума Пампіліус вартыя для нас не больш, чым шавец каля царквы Святой Гідылі.

**Першы** — Першыя законы былі падказаны нам Найвышэйшай Мудрасцю. Найлепшы закон ёсць той, які найбліжэйшы да гэтай крыніцы.

**Другі** — Хіба вы не бачыце, што кожны дзень з'яўляюцца новыя законы, што канстытуцыі і кодэксы розныя ў розны час і ў розных краінах?

**Першы** — Новыя законы заўсёды абапіраюцца на старыя. Гэта — маладыя галіны аднаго дрэва, якія жывяцца тым жа сокам.

**Другі** — Старое дрэва законаў дае горкі сок. Яго бесперапынку падсякаюць.




**Першы** — Суддзя не павінен сумнявацца ў справядлівасці законаў, бо яны справядлівыя абавязкова. Трэба толькі іх правільна выкарыстоўваць.

**Другі** — Суддзі трэба сумнявацца ў справядлівасці законаў, таму што, калі мы прызнаём яго несправядлівым, то будзе магчымасць крыху яго змякчыць там, дзе мы будзем прымушаны яго прымяніць.

**Першы** — Крытыка законаў несумяшчальная з той павагай, з якой мы павінны да іх адносіцца.

**Другі** — Калі мы не бачым іх жорсткасці, то як мы можам іх змякчыць?

**Першы** — Мы — суддзі, а не заканадаўцы і філосафы.

**Другі** — Мы — людзі!

**Першы** — Чалавек не можа судзіць людзей, суддзя ж, сеўшы ў судзейскае крэсла, страчвае сваю чалавечнасць, ён становіцца падобны на Бога і не адчувае больш ні радасці, ні гора.

**Другі** — Правасуддзе, здзейсненае без спагады, — самая бязлітасная несправядлівасць.

**Першы** — Правасуддзе бездакорнае, калі яно літаральнае.

**Другі** — Правасуддзе абсурднае, калі яно бездухоўнае.

**Першы** — Першапрычына законаў боская, а іх вынікі, нават самыя нязначныя, таксама божыя. І нават калі б закон не паходзіў бы ад Бога, а ішоў бы ад чалавека, і тады трэба было б ужываць яго літаральна, бо літары непахісныя, а чалавечая думка няўстойлівая.

**Другі** — Законы цалкам выдуманы чалавекам, яны нарадзіліся бязглуздымі і жорсткімі на хісткім грунце чалавечай свядомасці. І, каб яны напоўніліся божым сэнсам, трэба трымацца духу, а не літары закона, бо літары мёртвыя, а дух жывы.

Так гаворачы, абодва непадкупныя суддзі сышлі на зямлю і ўвайшлі са сваім эскортам у будынак Трыбунала, дзе іх чакалі, каб яны выканалі свой абавязак. Іх коні, прывязаныя за кол пад вялікім вязам, пачалі размаўляць паміж сабой. Спачатку загаварыў конь **першага суддзі**:

— Калі зямля, — сказаў ён, — дастанецца коням (а яна калі-небудзь будзе ім належаць безумоўна, бо конь, несумненна, ёсць канчатковая мэта эвалюцыі), калі зямля дастанецца коням, і калі мы будзем вольныя рабіць тое, што нам прыемна, мы не адмовім сабе ў асалодзе саджаць у турму, вешаць і калесаваць сабе падобных. Мы будзем духоўнымі істотамі. Гэта мы сцвердзім турмамі, віселіцамі і дыбамі, якія ўзнімуцца ў нашых гарадах. Будуць у нас і коні-заканадаўцы. Што ты аб гэтым думаеш, Русэн?

Русэн, які быў канём **другога суддзі**, сказаў, што конь — вянец прыроды, і ён спадзяецца на тое, што царства конскае рана ці позна надыдзе.

— Бланшэ, калі мы пабудуем гарады, — дадаў ён, — трэба будзе, як ты гаворыш, стварыць гарадскую паліцыю, і я хацеў бы, каб тады конскія законы былі коням, я хачу сказаць, спрыяльнымі для коней, на карысць коням.

— Як ты гэта разумееш, Русэн? — запытаў Бланшэ.

— Я гэта разумею так. Я хачу, каб законы забяспечвалі кожнага мерай аўса і месцам у стайні, і каб дазволена было кожнаму любіць па свайму жаданню ўвесь сезон, бо будзе час для ўсяго. Я хачу, нарэшце, каб конскія законы былі ў згодзе з прыродай.

— Я спадзяюся, — адказаў Бланшэ, — што нашы заканадаўцы спярша падумаюць аб рэчах больш важных, чым ты, Русэн. Яны складуць законы пад кіраўніцтвам Нябеснага каня, які стварыў усіх коней. Ён — самы добры і самы магутны. Моц і дабрыня — яго неад'емныя вартасці. Ён прызначыў нас, сваё тварэнне, цярпець аброць, цягнуць кантар, адчуваць шпору і падыхаць ад удараў. Ты гаворыш аб любові, таварыш: ён хацеў, каб многія з нас былі мерынамі. Так ён пажадаў. Законы павінны падтрымліваць гэты цудоўны парадак.

— А ты ўпэўнены, дружа, — запытаў Русэн, — што гэтае зло паходзіць ад Нябеснага каня, які нас стварыў, а не ад людзей, яго горшага тварэння?

— Людзі — вестуны і ангелы Нябеснага каня, — адказаў Бланшэ, — яго воля праяўляецца ўсюды. Яна добрая. Паколькі ён нам жадае зла, зло гэта — дабро. Такім чынам, закон, каб быць добрым, павінен прыносіць нам зло. І ў конскай імперыі нас будуць мучыць паўсякаму: указамі, арыштамі, прыгаворамі і загадамі, каб дагадзіць Нябеснаму каню.

— Вось што, Русэн, — дадаў Бланшэ, — у цябе асліная галава, бо ты не разумееш, што конь быў пасланы ў гэты свет, каб пакутаваць, і, калі ён не мучыцца, ён жыве насуперак свайму прызначэнню, і Нябесны конь адварочваецца ад шчаслівых коней.

**Пераклаў з французскай мовы Аляксандр МІХАІЛЯН.**

***ЧЫТАЛІ?*** ***ЧЫТАЛІ?***

# «БЕЛАРУСЬ - XXI»

І хаця матэрыял, назва якога стала загалоўкам агляду, займае невялікую частку другога нумара «Спадчыны», усё ж на гэтай публікацыі нельга не спыніць асобную ўвагу. Тут сабрана некалькі інтэрв'ю з людзьмі, якія «актыўна ўдзельнічаюць у выпрацоўцы ідэй і прапагандзе сваіх ідэалаў». Яны дзеляцца з чытачамі сваімі развагамі і меркаваннямі пра развіццё бліжэйшай будучыні Беларусі. Субяседнікі чытача — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь Алег Трусаў, народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў, пісьменнік, сябра выканкама Беларускай Лігі правоў чалавека Валянцін Тарас, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь Валянцін Голубеў, прафесар, доктар філасофіі, дырэктар Беларускага інстытута навукова-тэхнічнай інфармацыі і прагнозу Іван Антановіч, настаяцель Свята-Петрапаўлаўскага сабора айцец Георгій, настаяцель менскага касцёла Святога Роха айцец Міхал. Ужо сам падбор удзельнікаў размовы пра лёс Беларусі выклікае цікаўнасць. Кранаюць душу і сэрца невясёлыя словы Васіля Быкава: «Грамадскасць Беларусі па-ранейшаму будзе сядзець, апусціўшы рукі, ды грэбліва моршчыцца на кожны выступ дзеячаў апазіцыі ў Вярхоўным Савеце: то празмерна радыкальна, то не ў час, то зноў на беларускай мове, да якой яна (грамадскасць) ніяк не можа прывыкнуць. Згоднікі-цэнтрысты ўсё болей будуць набываць рысы «плакатных бальшавікоў»... Нацыянал- ды ліберал-камуністы, здаецца, сапраўды гатовыя прымоўкнуць, бо дарваліся да болей важнае справы — рабаваць недарабаванае».

Дык што ж нас чакае? Няўжо — бездань? Так, бездань, калі не ачомаемся, калі не станем усёй грамадой у падтрымку сапраўднай дэмакратыі. Пад рубрыкай «Адлюстраванні» часопіс працягвае касцюшкаўскую тэму, расказваючы пра гады, праведзеныя нашым слаўтым земляком у Францыі і ЗША. Невялікі памерам артыкул багата ілюстраваны.

Працягваецца публікацыя распачатай у першым нумары працы Адама Глябовіча «Касцёл у няволі». Друкуецца і цікавы артыкул Аляксандра Крывіцкага і Мікалая Саскевіча «А імя яму Тураў...»

Пад рубрыкай «Жанчына і палітыка» змешчаны скарочаны пераклад з польскай працы Эдварда Рудзіцкага «Бона Сфорца Д'Арагона — другая жонка Жыгімонта Старога». Пра кальвінісцкі збор у Койданаве расказвае Алесь Кушнярэвіч. Яго артыкул — яшчэ адна старонка з мартыралога беларускага дойлідства. «Выдатны помнік архітэктуры, — піша Алесь Кушнярэвіч, — быў знішчаны пасля апошняе вайны савецкімі вандаламі. Нікога, вядома, за гэтае злачынства не пакаралі».

Пададзены ў другім нумары і працяг успамінаў Язэпа Германовіча «Кітай — Сібір — Масква».

Дарэчы, гэтым нумарам «Спадчына» пашырае абсяг часопіса. Пабольшала, у прыватнасці, публікацый сучасных аўтараў. Невялікія памерам іх артыкулы ўзнаўляюць цікавыя, арыгінальныя тэмы. Напрыклад, «Беларускія назовы ў Антарктыдзе» Ігара Шарухі. Агульны партрэт урочышчаў, слабод, прадмесцяў вымалёўвае Аляксандр Лакотка, робячы напрыканцы публікацыі выснову: «Праблему захавання, рэстаўрацыі ды выкарыстання помнікаў драўлянага дойлідства трэба неадкладна вырашаць на дзяржаўным узроўні». Ці пачуюць толькі яе прадстаўнікі гэтага «дзяржаўнага ўзроўню»?

Грунтоўнай публікацыяй радуе «Спадчына» і ў раздзеле «Мова». Побач з сур'ёзным уступным артыкулам «Язэп Лёсік — мовазнаўца» друкуецца грунтоўная праца вядомага вучонага і грамадскага дзеяча Язэпа Лёсіка «Некаторыя ўвагі да беларускае літаратурнае мовы». Упершыню праца пабачыла свет у часопісе «Полымя» (1924, N 2, 3; 1925, N 5).

У другім нумары часопіса пад рубрыкай «Вачыма калабаранта» друкуецца і пачатак успамінаў Язэпа Малецкага «Пад знакам Пагоні». Аўтар кнігі, як згадваецца ў рэдакцыйным каментарыі, належыць да тых беларускіх дзеячаў, якія ў гады другой сусветнай вайны супрацоўнічалі з нямецкімі акупантамі. Інакш кажучы, ён — калабарант. У 1944 г. разам з немцамі Малецкі адступіў на Захад, наладзіў сваё жыццё. А потым напісаў успаміны пра падзеі на Беларусі ў 1939 — 1945 гг.

**Ганна ЦІТАЎКА.**





# «МАДОННЫ XX СТАГОДДЗЯ»



—так называлася выстава жывапісных палотнаў мастака Аляксея Кузьміча, якія з велізарным поспехам дэманстраваліся ў ЗША, а таксама ў Палацы мастацтваў у Менску.

Жанчына як увасабленне найвышэйшай духоўнасці, адзіна здольнай ўратаваць свет ад жорсткасці, хлусні, несправядлівасці... Жанчына як творца і ахоўніца жыцця, крыніца святла і хараства, без якіх чалавецтва абрынулася б у бездань цемры... Такімі разумее і бачыць мастак сваіх гераінь — тых, што сышлі да нас з нябёсаў, і тых, што жывуць побач з намі, адорваючы прамяністым зззяннем.

Прапануем пазнаёміцца з некалькімі палотнамі А. Кузьміча з цыкла «Мадонны XX стагоддзя»: «Маці і дзіця», «Народная артыстка Стэфанія Станюта», «Натхненне».

**Фота Уладзіміра КАВАЛЬЧУКА.**

*Янусь МАЛЕЦ*

**ГУМАР**

## По трафарэту трафарэтам

Пра што пісаць?
Пра што казаць?
Аб чым у вершах мовіць?
Ужо і ўзрост пад сорак пяць,
А я пакуль што пачатковец.

Павырасталі малышы
І патрабуюць грошы,
І жонка ные ўсё:
— Пішы, пішы,
ты мой харошы...

А што, пра што я напішу?
Пра лісцікі, пра зоркі?..
Вясну ўжо столькі варушу —
Не я адзін — аж горка!

А пра зіму лепш не пісаць,
Бо зморшчыцца рэдактар.
—Не ўсё ўдалося Вам сказаць,
І Вы тут не наватар.

Ён так ужо не раз казаў
І зноўку скажа гэтак.
Я трафарэтна напісаў,
Ён кажа трафарэтна...

## Самадуры

Ёсць на свеце самадуры,
За сталамі,
З тоўстай скурай.
Іх і кранам не падняць:
Быццам помнікі сядзяць.
Іх вачыма не праткнуць:
У паперы бельмы ўткнуць,
Від задумны, важны зробяць
І не чуюць чалавека.
Самаўпэўненасць і гордасць
Вось і ўся іх картатэка.
Беспардонна самадуры
Нас даўно штодзённа дураць,
Так задураць — як аслы,
Пхнём іх самі за сталы.

## Арыгінальная паэма

Пішу даўно, пішу нядрэнна
(Казалі жонка і дачка),
Стварыў нядаўна дзве паэмы —
Адна дык з аднаго радка.

## Нацыянальная школа: гісторыя, сучаснасць, перспектывы

**УВАГА!**

**3—4 красавіка 1995 г.** у Брэсцкім дзяржаўным педагагічным інстытуце імя А.С.Пушкіна адбудзецца Рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя «Нацыянальная школа: гісторыя, сучаснасць, перспектывы».

Плануецца абмеркаванне наступных пытанняў:

1) Філасофія адукацыі і нацыянальная ідэя: пошукі ўласнай парадыгмы.
2) Гісторыя беларускай нацыянальнай школы.
3) Сучасны стан нацыянальнай школы беларусаў і перспектывы яе развіцця.
4) Актуальныя пытанні беларускамоўнага выкладання гуманітарных і прыродазнаўчых дысцыплін.
5) Праблемы стварэння беларускамоўнага асяроддзя ў навучальных установах.
6) Месца беларусазнаўства ў навучальным працэсе, ва ўмацаванні нацыянальнай самасвядомасці і выхаванні культуры міжнацыянальных адносін.
7) Пытанні адукацыі этнічных меншасцей Беларусі.
8) Шляхі задавальнення адукацыйных патрэб беларускай дыяспары.

Да канферэнцыі плануецца выданне зборніка матэрыялаў. Тэзісы дакладаў аб'ёмам 1—4 старонкі машынапіснага тэксту, надрукаваныя праз два інтэрвалы на беларускай мове, дасылайце калі ласка ў 2-х экз. да 3 кастрычніка 1994 г. на адрас: 224665, г. Брэст, бульвар Касманаўтаў, 21. Брэсцкі педінстытут, Яцкевічу С.А. Паколькі атрыманыя матэрыялы будуць перадрукоўвацца, прытрымлівацца пэўных норм іх афармлення неабавязкова, але аргкамітэт просіць усіх аўтараў паклапаціцца аб змястоўнай адпаведнасці дасылаемых матэрыялаў тэматыцы канферэнцыі, а таксама аб іх стылістычнай і арфаграфічнай дакладнасці. Рэдкалегія пакідае за сабой права адбору матэрыялаў і (пры неабходнасці) іх рэдагавання. Да тэзісаў трэба прыкласці аўтарскую даведку з указаннем імя і прозвішча, вучонай ступені і звання, месца працы і пасады, адраса і тэлефона.

Тэлефоны для даведак: **625-14; 333-44; 333-42** (код г. Брэста: **8-01622**).

**Аргкамітэт.**

**Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1.**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:**

**Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.**

**Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.**

**Індэкс 63865. Замова 28**

**Газета набрана і зверстана ў рэдакцыі газеты «Паляўнічы і рыбалоў Беларусі».**

**Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр. Ф.Скарыны, 79.**

**М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12**
**П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12**
**Наклад 5904 паасобнікі**
**Падпісана ў друк 11.07.1994 г. у 15 гадзін.**